№ 6 Вільня, 11 Ліпня 1920 г. Год I

# НЕЗАЛЕЖНАЯ ДУМКА

**Палітычна-грамадзянская і літэратурная часопісь**

**Выходзіць што тыдзень.**

Рэдакцыя і Адміністрацыя: Вострабрамская 9—5, адчынена штодзень ад 11 да 1 г. апрача сьвят.

Асобны нумэр 2 маркі, на 1 год 100 мк. на 6 месяцоў 50 мк., на 3 мес. 25 мк. на 1 м. 8 м.

## Ня чакайце міру.

Старыя людзі кажуць, што гарачае лета прадвяшчае незвычайныя, вялікія здарэньня ў палітычным жыцьці. Заўседы пасьля гарачыні і духаты ідзе навальніца, ці бура. І вось і народ у даўгой летняй духаце прадчувае нешта надзвычайнае, страшэннае у жыцьці народаў. Вядома мы ня будзем казаць, што гэта запраўды так і ёсьць, што па гэтай прымеце можна наўперад ведаць, што нясець нам гарачае лета, але, не хадзіўшы далека, ўспомчім, што гарачае лета было перад апошняй вайной, што гарачыня і духата стаяла ў лета рэволюцыі перад бальшавіцкай навалай. Лета гэтага году рана пачалося і па гэты дзень досіць гарачае і сухое, такім яно мусіць быць і да канца. Аб чым жа нас папераджае гарачыня гэтага лета? Напэўна ж не аб спакоі. Гляньце на тое, што робіцца ў Эўропе і нават у Амэрыцы. Здаецца ўсе хочуць, міру і гэтак хочуць, як зямля ў гарачыню хоча дажджу. Аб міры гавораць урады усіх гасударстваў, і для гэтага зьяжджаюцца прадстаўнікі іх на конфэрэнцыі. Для падтрыманьня даўгалетняга міру стварылася Ліга Народаў, і яго-ж дамагаюцца дэмакратычныя элемэнты ўсіх краеў, выносячы свае рэзалюцыі. А вайна, як вампір, то выстаўляючы, то хаваючы свой крывавы твар, памалу, патроху сьсе і сьсе кроў народаў. Ці відаць жа яе канец? Не. Ня гледзючы на абвяшчэньне сусьветнага міру, народы пад націскам імпэрыалістаў і капіталістаў з аднаго боку і часам самаабароны з другога, ўзброіваюцца ўсё мацней і мацней Нямеччына у пачатку 1920 г. Мела больш мільёну войска. Англія ў гэты жа час мела 485.000 войска і на яго умацаваньне асыгнавала 125 мільёнаў фунтаў стэрл. Амэрыка мае пастаяннага войска 500.000 і робіць стараньня яго павялічыць, дзеля чаго залажыла новую вайсковую школу і асыгнавала на войска 5 більёнаў доляраў. Італія так сама павялічыла сваю армію з 12 да 15 карпусоў і мае думку ўвядзеньня агульнай войсковай службы і стварэньня 120 новых палкоў. Савецкая Расея мабілізавала ўжо блізка што ўсіх мужчын, што могуць стаяць на нагах. У Польшчы стварылася Рада Дзяржаўнай Абароны, якая пэўна што займецца тым самым пытаньнем, і ўжо ходзяць чуткі аб „паспалітым рушэньні“. Неспакой, апрача тых мейсц, дзе ўжо ідзе барацьба, і на Балканах, і ў Мал. Азіі, у Пэрсіі і ў самай сярэдзіне Эўропы, дзе падтрымліваецца байкот Вэнгрыі, і у Ірляндыі. Усе гэта сьведчыць аб тым, што ня міру трэба чакаць, а можа новага сусьветнага пажару, новой вайны. Дзе ён пачнецца—невядома, але ў паветры вісіць дух гэтае вайны і чуецца нешта грознае надзвычайнае. Мы ня хочам быць прарокамі, дай Божа, кап гэта гутарка засталася толькі на паперы, а не зьявілася ў жыцьці, але нам беларусам і пры тых варунках, калі не загарыцца новая вайна, ўсеж такі міру чакаць зараз нельга. Канца крывавай спрэчкі на нашай зямліцы ня відаць, і можа ня раз яшчэ за гэта лета віхар вайны прабяжыць па абшару нашае бацькаўшчыны. „Паны скубуцца, а ў хлопаў чубы трашчаць“. Беларускі народ па загаду неміласэрднай гісторыі папаў у палажэньне гэтага хлопа і выйдзе з яго толькі тады, калі сам стане панам--гаспадаром. Дык не спадзевайцеся Беларусы на чу-

жынцаў, на конфэрэнцыі і Лігі народаў, не чакайце міру і згоды бяз вас, а дабівайцеся панства ў сваей старане, як яго дабіліся шчасьлівейшыя, але не здальнейшыя за вас народы.

Civis.

# Каму Зямля?

Пад гэтакім загалоўкам у Віленскай польскай газэце „Наш Край“ выяўляючай погляды польскага Ураду на Беларусі, памешчан артыкуль 6 ліпня. У гэтым артыкуле вось што гаворыцца: «Калі абарона граніц нашых перад воражай навалай зьяуляецца першым заданьнем нашай палітыкі загранічнай, то ўнутры урэгуляньне зямельных адносін ёсьць можа найважнейшае пытане, занімаючае думкі усіх разумных патрыотў, каторым разцвітаньне бацькаўшчыны і добрабыт наогул польскай нацыянальнасьці заўсёды ляжыць на сэрцы.

Дзеля таго, што справа гэта ужо неаднаразова і да канца была абгаворана ў урадавых кругох, а так сама і у сойме, пры гэтым у канцы канцоў выявілася, што 1) надзел зямлі селянам беззямельным і малазямельным бязпрыменна патрэбны; 2)што зямля будзе падзеляна толькі за плату, бо толькі той, хто сваей працай патрапіць зарабіць і акономіяй у гаспадарцы зьбярэ грошы, будзе мець права на ўласнасьць, бо ён дае гаранцію, што гэтай ўласнасьці не змарнуе а наадварот скарыстае яе на дабро, сваей сям'і, бацькаўшчыны, народу.

Як выявілася, зямлі у нас ёсьць вельмі многа; перш усяго вялізарныя маемасці гасударсцьвенныя, якія належалі да маемасці Царскага Ураду, а цяпер перайшлі да польскай Улады. Далей ня меншыя абшары займаюць маёнткі прыватныя, гаспадары каторых ані абгараць, ані абрабіць і абсеяць ня могуць па прычыне атсутнасці гаспадарскіх прыладаў, насеньня, рабочых рук і каторыя ахвотна за добрую плату цалікам, або частку сваіх маемасцяў, адступілі—бы гасударству для калянізацыі.

З другого боку лік беззямеляных і малазямельных сялян, якія хацелі-б мець свой загон, есць так сама вельмі вялікі, даходзячы міліенаў. Надзяліць усіх іх зямлею, вымерыць, раскалянізаваць і г. д., гэта патрабуе мільены грошаў і займе многа часу. Рэчь ясная, што ніякі Урад ня можа гэтага вырашыць у працягу некалькіх месяцаў і нават аднаго году, аднак жа прыступіць да гэтай працы трэба і як найхуччэй. Пытаньне толькі: хто першы сярод сялян годзен атрымаць зямлю як найхуччэй. Па думкам польскай газэты ня можа быць ніякага сумленьня, што тыя, каторыя сваёю уласнаю крвёй і потам дапамаглі Польшчы заняць нашу бацькаўшчыну. Першым, значыцца, чынам дзельны польскі жаунер, які пакінуўшы дом айца, уласны свой загон, грудзямі сваімі баро

# Коапэратыў і крама гандляра.*)

Як увайшоў Чорны Борух у школу, дык яму ня трэба было ужо пачынаць гутарку пра коапэратыў, бо аб гэтым ужо гаварылі даўно. У мястэку было некалькі жыдоўскіх крам, але у пачатай гутарцы прымалі сучасце ня толькі крамнікі, а і рамясьнікі: шаўцы, краўцы і іншыя. Здавалася, што усім коапэратыў быў быццам бяльмом на воку. Хаця жа, здавалася, чаго там пужацца коапэратыва, хаця-б тым самым рамясьнікам? Працуй сабе, і ўсе табе тутака. Але так ужо вялося здаўна, што калі адзін з кагала закрычыць, дык ўсе стануць зьбегацца. Доўга і многа ўвесь кагал гаргатаў, і як заўседы бывае, калі многа нарад, дык яшчэ больш сабьюць з панталыку. Так было і гэты раз. Але усё-же, як памаліўшыся у школе Чорны Борух ішоў дамоў, весялей у яго было на сэрцы.

— Ну калі ўсе ўзяліся гэтак шчыра, дык можа што небуць і зробяць. Не аднаго мяне гэта датычыцца.

Прайшло гэтак з месяц. Чуваць было пра тое, што Янка з вучыцялем аб чым-сь часта радзяцца ці на кватэры у вучыцеля, ці у Янкі. Быццам клікалі яны на раду і другіх сялян. Так сама казалі што і складку ужо не малую зрабілі, хоць і ня вельмі ахвотна іншыя нясуць,— чакаюць каб уперад тавар прявязьлі. Нехта казаў і тое, што Янка і другія сяляне свае грошы даюць пакуль што без

*) Гл. № 5 „Н. Д.“.

ніць Польскія граніцы. Далей газэта суліць грамадзянам купляць гасударственную пазычку і кажа, што той, хто будзе мець гэту пазычку, можа спадзевацца на хуччэйшую куплю зямлі; іначэй можа стацца так, што жадаючым купіць зямлю прыдзецца чакаць сваго чароду некалькі гадоў альбо нават некалькі дзесят гадоў.

Нечага казаць, што мы беларусы з поглядамі польскай газэты і польскага грамадзянства ў гэтым пытаньні згадзіцца ня можам.

**Алесь.**

# Перасьцярога.

З паведамленьняў польскага генэральнага штабу, асабліва за апошніе дні, відаць, што ўсяму нашаму краю пагражае яшче адна вялікая небясьпека. Бальшавіцкая Расея сабраўшы вялізарную вайсковую сілу, вельмі добра арганізаванную і дысціплініраваную і паставіўшы яе пад каманду праслаўленых царскіх генэралаў як Брусілаў, Паліванаў і другія, кінула яе на польскія войскі, якія пайшлі аслабаняць Украінскі народ ад расейскага уціску. Дзеля таго што польская армія аказалася у шмат меншым ліку, яна прымушана была адступіць.

Не здаволячысь гэтаю сваёю перамогаю, расейцы не пакідаюць і нашаго беларускаа ф ронту. Бальшавіцкае камандаваньне г цяпер сьцягнуло на наш фронт так сама сілы у многа раз пераважываючыя польскія войскі і пачынае і тут наступленьне.

Гэты час пагражае нашай старонце вялікай небясьпекай. З быўшых здарэньняў мы ведаем, што мейсцы, праз каторыя прасоўваюцца дзьве варожыя друг другу арміі вельмі нішчацца. Такім чынам нашаму гаротнаму сяляніну пасля цяшкіх трудоў дачакаўшаму момэнта, калі треба зьбіраць з поля ураджай, прыходзіцца можа кідаць гэты ураджай, і хавацца па лясох самым, а так сама хаваць і скаціну, а асабліва коней. Можа некаторыя з гэтых сялян будуць нават кідаць свае наседжаныя гнезды як у 1915 годзе і уцякаць куды вочы глядзяць, абы толькі ня бачыць як будзе руйнавацца яго дабро. Мы лічым патрэбным перасцерагчы нашых чытачоў, што як бы цяжка ня было, кідаць сваю гаспадарку ня треба, бо у чыжым краю чакае Вас яшче большая нядоля чым у хаце. **К.**

# Новы падатак.

Апошнімі часамі заўважаецца на Беларусі павышанае разьвіцьце коапэратыўнага руху. Сялянскія беларускія коапэратывы адчыняюцца па ўсіх мястэчках і нават вялікіх весках. У Вільні і у Менску адчыніліся коапэратыўныя мылаварні. Але і на дарозе гэтай працы здараюцца перашкоды.

ўсякіх працэнтаў. Мала што гавораць? Можа там і паловы таго няма аб чым кажуць... Але вось, у нядзелю на дзвярох вучылішча сам вучыцель накляіў паперку. У гэтай паперцы гаварылася аб тым, што склікаюцца на агульный сход тые, хто запісаўся у таварыства. Перачытаў гэтую паперку і Борух.

— Так... знацца толькі тые, хто запісаліся ў сябры...

І яшчэ задумаўся Борух...

— Што ж рабіць?.. — пытаўся ён сам сябе.

Але мусіць такі сам не надумаўся, бо пайшоў да Пятрука. Праз неякі час яны разам з Пятруком ішлі да вучыцеля, каб запісацца сябрамі у таварыства. Нядоўга быў Борух з Пятруком у вучыцеля. Хутка выйшлі яны ад яго, але нешта ня вясёлы.

— Ну што ты рабіў у вучыцеля? — запытаўся яго другі гандляр, як Борух разьвітаўшыся з Пятруком ішоў каля крамкі гэтага гандляра.

— Кепска... Вучыцель казаў, што па іх статуту гандляроў прыймаць ня можна.

— А як жа Шлёмку прынялі?

— Я так сама пытаўся. Каже што Шлёма рамесьнік.

* * *

— Колькі ні стараліся на сходзе Шлёмка і іншыя такія самыя як ён, шкодзіць коапэратыву, але прыехаў на сход той самы інструктар, які прыежджаў першы раз, і на ўсё, што толькі ні казаў Шлёмка, ён спрытна адказываў, і радзіў селянам робіць ня гэтак як радзіў Шлём-

Інспэктарам подаці Віленскага павету зробліна цікавае распараджэньне аб тым, каб усе коапэратывы павету унясьлі у казну 25 працэн. чыстай прыбылі за 1919 год, тады як па распараджэньню выданаму Гэнэральным Камісарыятам Усходніх Зямель (Dznnik Urzędnwy № 26 за 1919 год ), да гэтага часу яшчэ не адмененаму, коапэратывы зволены ад гэткіх падаткаў.

Здавалася-б: трэба ці скасаваць зробленае распараджэньне, ці яго сцісла трымацца Але «ўлады на месьці» мусі быць гэта ведаюць лепі...

Калі ж і запраўды гэты новы падатак будзе узысківацца ва ўсіх паветах Віленшчыны, дык можна загадзя сказаць, што пры гэткім поглядзе ўлады на коапэрацыю, яна шырыцца ня будзе, і спажыўцы ня змогуць аб'еднацца у гэту цяжкую гадзіну для барацьбы з дарагоўляй. Свой.

# Да беларускіх пісьменнікау.

Дзіўная перамена зрабілася нядаўна у нашым пісьменстве; добраб было, каб перамена была да лепшага, але робіцца як раз наадварот. Калі прачытаць часопісі даўнейшыя, (ад 1906 г.), напрыклад: „Нашу Ніву“, „Сьветач“, „Беларус“, „Дзянніца“ і інш. і зраўнаваць іх з цяперышнімі, кідаецца ў вочы вялікая розніца: даўней пісьменнікі рупіліся, каб мова іхняя была прыемнай, каб падабалася і чытачом і слухачом сваёй беларускасьцю, хараствам; выкідалі з ужытку літэратурнага няпекные, рэжучые вуха словы, бо відочна мелі сваёй мэтай ня толькі даць чытачом прыемнасць, пішучы аб чым цікавым, але стараліся яшче апрача гэтага захапіць, пацягнуць да сябе, прадусім, пекнасьцю мовы.

Цяпер робіцца наадварот; цяперашнія беларускія пісьменнікі (хоць ня ўсе) узялі відочна сабе за мэту збрыдзіць беларускую, даволі пекную і цікавую мову; кідаюць у літэратуру дзікія, няпекныя словы, як балей, мяней, далей, ляпей, (географія Смоліча), ваўке, Лясэ, барэ, вартаўнікe, гудуць, айцэ („Сымон Музыка“ Коласа), відавочна, відавідкі (газэта Беларусь).

Брыдка робіцца як чытаеш гэткія яўна зломленыя словы; Куды прыемней чытаць болэй, меней, далей, лепей, ваўкі, лясы, бары, вартаўнікі, гудзяць. бацькі (заместа айцы), відочна; словам відавідкі па мойму можна зусім не карыстацца, як ня дужа патрэбным.

Дык раджу вярнуцца Вам, братцы пісьменікі, на старую лепшую дарогу, а калі хто мае ахвоту „шчагальнуць“ сваім новым словам, дык трэба яго перш добра, з усіх бакоў абгледзіц і ўжо тады, калі яно добрае, пушчаць у сьвет.

А. Ф. В.

Ад рэдакцыі. Зусім справядліва тое, што ня трэба ужываць словы малавядомыя, ці неправільныя, але ж тым часам ёсьць шмат слоў, аб якіх можна сьпірацца, бо ў адным мейсцы кажуць так, а ў другім інакш. Ня зусім верна і тое, што толькі ў апошнія часы нашы пісьменнікі сталі ўжываць тыя словы, на якія паказывае аўтар; некаторыя з іх спатыкаюцца яшчэ ў першых творах нашых пісьменнікаў часоў „Нашае Нівы“ і, дзякуючы гэтаму, яны сталі досіць вядомымі і зразумелымі чытаючаму грамадзянству.

Даючы мейсца на шпальтах нашае газэты гэтай заметцы, рэдакцыя, ня ўходзючы у падробны разгляд таго, што кажа аўтар, хоча падкрэсьліць тое, што пытаньне аб „засарэньні“ нашае мовы чужымі, незразумелымі, малавядомымі,

---

...ка, а як раз наадварот... Усі клопаты Боруха, Пятрука і іншых мейсцовых гандляроў скончыліся на той раз нічым: у Праўленьне коапэратыва выбралі вучыцеля, Янку ды яшчэ нейкага сяляніна. Гандляры пасумнелі. Яны прачувалі, што не сягоньня, дык заўтра коапэратыў вырвець з іх рук гандаль, яны ведалі, што ня сягоньня дык заўтра грамадяне супольнымі сіламі вызваляцца з іх капцюроў і прыйдзецца растацца хутка з тым багацьцем, якое, дзякуючы цемнаце і неарганізаванасьці грамадзянства, у працягу доўгіх гадоў разам з крыўдай людзкой лілося ў іх кішані. Гандляры гэта прагувалі, але зрашылі не здавацца бяз бою.

Чыжэўскі.

а часам проста выдумачымі словамі, есьць пытаньне балючае. Нам не адзін раз прыходзілася чуць гутаркі аналёгічныя з гэтай, і дзеля гэтага тыя, хто працуе на карысьць беларускага пісьменства, павінны зьвярнуць на гэта увагу, бо пісьменнікі твораць агульную мову народа, а яна павінна быць зразумелай для ўсіх, скуль-бы хто ні быў. Мы ня бяром на сябе сьмеласьці раіць нашым паэтам і пісьменнікам як гэта зрабіць, яны самі павінны знайсьці дарогу, але яшчэ раз скажам, што гэты ліст да рэдакцыі сьведчыць аб тым як балюча адбіваецца на грамадзянстве гэтае пытаньне.

---

## Да працы!

Гэй, да працы, дружна, сьмела,
Пакуль маем сілы!
Каб работа ў нас кіпела
Да самай магілы.
Каб час марна не праходзіў—
Ні адна хвіліна,
Каб дум нудных не паводзіў,
Як хлапец дзяўчыне.
Каб нам рукі не апалі
Ад цяжкай работы,
Каб цану ўсю спазнавалі
Мы яе з ахвотай.
Каб мы сьвету паказалі
І усім народам,
Што жыцьця мы не праспалі,
А йдзём сьмелым ходам.
Гэй да працы дружна, сьмела,
Пакуль хопіць сілы!
Каб работа ў нас кіпела
Да самэй магілы.

Вінцук Лемеш.

---

# На белым сьвеце.

### Рада Дзержаўнай Абароны у Польшчы.

Згодна з прапазіцыяй старшыні Рады Міністрау п. Грабскага польскі Сойм пастанавіу стварыць Раду Дзержаунай Абароны, якой даручана справа вайны і міру. У склад Рады увашлі: старшынёй начальнік дзяржавы Я. Пілсудскі і сябрамі старшыня сойму Тромпчынскі і дзесяць дэпутатау, а так сама прадстаунікі Рады міністрау з міністрам заграчічных спрау у іх складзе.

Начальнік дзяржавы Я. Пілсудскі выпусьціу дзве адозвы да жаўнераў і да грамадзян Польшчы з прызывам дапамагчы уладзе у справе абароны гасударства. Грамадзян ён кліча ісьці ахвотнікамі у войска.

### Конфэрэнцыя у Спа.

Старшыня Рады міністрау у Францыі Мільеран, выехау у Брусэль, дзе вядзецца падгатоука да конфэрэнцыі у Спа, на якой будуць абгаварывацца міжнародным справы у Эўропе і Азіі. Конфэрэнцыя павінна пачаць сваю працу гэтымі днямі. Да вучасьця у ёй дапушчаны прадстаунікі Нямеччыны і Польшчы

### Польшча прызнала Незалежнасьць Літвы.

З прычыны ухвалы Рады Міністрау, польскі міністрар заграчічных спрау князь Сапега выслау 4 ліпня да міністра заграчічных спрау Літвы тэлеграму, у каторай апавяшчае пастанову Польскага Ураду аб прызнаньні незалежнасьці Літоўскай Рэспублікі de facto. У гэтай тэлеграме кн. Сапега выражае надзею, што прызнаньне праў справядлівасьці для народных меншасьцяу з боку абодвых Дзяржау, прывядзе да утварэньня прыязні паміж Польшчай і Літвой.

### Бальшавікі і праваслаўнае духавенства у Савецкай Расеі

Па расказам асобы, нядауна прыехаўшай у Вільню з тае часткі Беларусі, якая часова была занята бальшавіцкімі вайскамі, паміж галавою праваслаўнага духавенства патрыархам Ціханам і галавою Рады Народных камісарау Леніным цяпер істнуюць вельмі добрыя адносіны; Ленін зразумеу, што яму нечага вясьці вайну з праваслаўным духавенствам, якое па свайму сацыяльнаму палажэньню мала розніцца ад сялян. У сувязі з гэтым у глаўнай праваслаўнай царкве у Маскве часамі гаворацца казаньня, што Улада саветаў не праціўна хрысціянству, бо яна бароніць інтарэсы працоўнага народу. Тая ж самая асоба перадавала, што бальшавікі вельмі строга караюць тых асоб, якія замешаны у адабраньні на Беларусі праваслаўных цэркваў.

---

# Сталічнае жыцьце.

(Ад уласнага карэспад. з Менску.)

Ці ведаеце Вы, паночкі, седзючы там недзі на „правінцыі,“ аб нашым „сталічным“ жыцці? У вас тамака свае дробныя інтэрэсы, а у нас?. У нас цэнтр, кіпучы гаршчок, дзе варыцца нешта наша агульнае, дзе усплывае, калі ўжо на тое пайшло, смак беларускага грамадзянска—палітычнага жыцьца. Перш аб настроях. У паветры вісіць нешта; нешта трывожнае, ходзяць „чуткі“, чувацца „гутаркі“, і штож робяць нашыя „сфэры“? У сфэрах цяпер крызісы — крызіс у Вайсковай Камісіі, крызіс у Нац. Камітэце, а папраўдзі сказаць усюды „крызіс.“ Пачынаецца крызіс ( ну скажем у Вайсковай Камісіі ) так як і усюды: той каму трэба падае у адстаўку, складаюцца паўнамоцтва, прапануюцца новыя асобы, часам лятуць тэлеграмы і ў правінцыю, а там далей, далей зьяўляецца „нехта ў хакі“ і накладае пячаткі, наводзе парадкі, і крызіс ужо ня крызіс, а Бог ведае што... І дапраўдзі, навошта яму было пачынацца, калі есьць нехта такі, хто можа аднэй рукой складаць паўнамоцтва, а другой навадзіць парадкі? Ды і дзеля якіх такіх прычын? Не з таго—ж, што у правінцыяльнай газэцэ „Незалежная Думка“ была надрукавана наша першая корэспадэнцыя ахвярованная Вайсковай Камісіі, на якую ужо ў сталічнай газэце і адказ быў па форме, і у адказі гэтым далікатна перасьцераглі нас, кап мы не перашкаджалі сур‘езнай працы на карысьць бацькаўшчыны. А ці мы пішам гэтыя лісты не на карысьць тэй самай бацькаўшчыны? Была і яшчэ адна ( а можа і две ) справа, што дужа цесна зьвязана з Вайсковай Камісіяй — гэта адчыненьне Казіно у будынку б. Акварыум. Але ж тут было толькі тое, чаму належыць быць у такіх выпадках. І ўсеж такі у нас застаецца пытаньне: ці крызісу саўсім не павінна было быц, ці яго прыпыніла нейчая рука, і цяпер ужо крызіс ня крызіс, а проста — парадак наводзіцца.

Далей у нас яшчэ адна цікавая рэч: гаварылі шмат аб курсах беларусазнаўства для настаўнікаў, зьміласьціваліся і над правінцыяй — туды паслалі сябру школьнае рады, каб і там адчыніць пару курсаў, але цяпер ужо бачым, што і курсы ня курсы, а так нешта „ з боку — прыпёку.“ Школьная Рада ўжо робіць стараньня перад польскай ўладай, кап на польскіх курсах побач з полёныстыкай выкладаліся прадметы беларусазнаўства. Навошта—ж гэта? Мусі быць на тое, каб нам нехта мог сказаць: польскія вучыцялі ведаюць беларускую мову, вы самі іх вучылі, няхай жа яны і вучаць вашых дзетак і польскасьці і беларускасьці, а гэта ўжо крок к таму, каб сказаць, што і саўсім беларускіх школ ня трэба. А можа мы будзем пасылаць у нашы беларускія школкі гэтых польска—беларускіх вучыцялёў?

Вось блізка што і усё, што варта казаць аб нашым жыцьці. Ня пісаць жа аб тым, што у нядзелю ў нас пачаўся тыднёвы збор на карысьць Польскага Чырвонага крыжа, „ад якога ніхто з абыватэляў не павінен ухіляцца“ і дзе будзе добра абстаўлены буфэт.

Урэшце аб тэатру. Гэта куток, дзе запраўды можна адпачынуць душой і сэрцам і хоць на кароткі час забыцца аб шэрай штодзеннасьці, асабліва калі разам паслухац родныя сьпевы ў спаўненьні Тэраўскага. **Мончук.**

# ПА КРАЮ.

## МЯСТЭЧКА ДУКШТЫ.

(Мейшагольскай гм. Віленскага пав.).

Мястэчка Дукшты зьяўляецца цэнтрамь цэлай парафіі. Завецца яно „мястэчкам“, але тут, апрача касьцела, ксяндзоўскіх будынкаў, школы і 1—2 хат, нічого больш няма. Гэта, як расейцы кажуць, „пагост“, больш нічога. Парафія складаецца з $2^1/_2$ тысячаў душ, а калі да гэтай лічбы прыдаць душ 300 праваслаўных ды евангелікаў, то у районе Дукшт будзе каля 3000 душ. Прыняўшы пад увагу, што ні пры касьцёле, ні ў бліжэйшых вёсках няма жаднай крамы можна напэўна сказаць, што арганізацыя коапэратыва у Дукштах зьяўляецца вельмі пажаданай, і будучына яго тут забясьпечана.

У сучасны момэнт будуецца парафіяльны дом, ў якім цэлы канец адводзіцца пад коапэратыў. Будынак закончыцца месяцы праз 2, і тады грамадзянства прымецца за арганізацыю коапэратыва. N.

## Басніцкае спажывецкае таварыства

(Навагрудзкага павету).

Статут таварыства зарэгістраваны у б. установах Расейскай улады, але таварыства пачало сваю чыннасьць у лютым б. г. Сябраў таварыства лічыць 271; паявы ўзнос сябраў ад 5 да 25 м.; паявога капіталу ўсяго лічыцца 7350 м. Аколіца чыннасьці таварыства абхапіла 10 весак з агульнай лічбай насяленьня ў 2620 асоб. Сябры таварыства за яго чыннасьць не адпавядаюць. Большая частка сябраў сельскія гаспадары. Урад складаецца з 3 асоб, працу паміж сабою яны падзялілі гэткім чынам: старшыня ураду, ён жа і скарбнік і крамнік, другі сябра ураду—сэкрэтар, а трэці сябра ня мае ніякіх абавязкаў. Таргоўлю таварыства вядзе толькі тады, калі аправізацыя адпускаіць тавары, але гэта бываіць рэдка; Навагрудзкі Саюз Коапэратываў саўсім амаль нічога не даец; гандляваць на мейсцовым рынку са сваімі капіталамі, таварыству не пад сілу, бо цэны надта вялікія.

Таварыства заложана з мэтай прадаваць жыхарам аколіцы уселякія тавары, якія дасьць апраўізацыя, дзеля чаго да апраўізацыі нхлежыць кіраўніцтва таргоўляй, напрыклад павялічэньне цэн на тавары ня больш як на 10%.

Крама таварыства знаходзіцца ў хаце старшыні ураду. Сябры ураду атрымліваюць пэнсыю у размеру 75% з чыстага зыску. Рэвізыйная Камісія зложана з 3 асоб, але нічым сваей чыннасьці не аб'явіла. Рахунковасці і дзелаводзтва не вядзецца.

Вось абразок коапэратывы у Навагрудзкім павеце. Відаць што культурнай і прасветнай працы няма, сябры ураду больш усяго цікавяцца сваімі матэрыяльнымі справамі, атрымліваюць пэнсію у 75 прац. з зыску, і тым самым зводзіцца маемасьць таварыства, бо напэўна апошнія 25 прац. ідуць на гаспадарскія расходы таварыства. Ня можна дапусціць, каб усімі справамі таварыства кіраваў адзін сябра без кантролю, як, напрыклад, старшыня ураду. Напэўна бальшая частка сябраў кажа, што іх крамка нядужа, а таго ня ведаюць, што гэта справа агульная, што у грамадзе найдзецца штат людзей згодных памагчы і маральна і матэрыяльна.

Сіла у грамадзе! Трэба выбраць новых дзеячоў, каб, дзякуючы ім, грамадзянская установа стала здольнай працаваць. Гэта можа зрабіць агульны сход, бо ён ёсьць гаспадар спажывецкага таварыства. Так сама ня трэба дазваляць мяшацца у агульную справу іншым уладам, як напрыклад апраўізацыі. Трэба злучыцца у моцны Саюз і усім разам бараніць сваю справу.

**Л. Міхайлаў.**

## Кляўклеўскае Спажывецкае Т-ва „Гвязда"

(Шырвінтскай вол. Віл. пав.)

Кляўклеўскае Сп. Т-ва распачала сваю дзейнасьць 18 жніўня 1919 г. На першых парах па адчыненьні Т-ва ў кіраўніцтве прыймаў удзел пробашч мяйсцовага касцёла, п. Чыбас, але пазьней ён разыйшоўся з сваімі калегамі па ураду і вышаў са складу яго сяброў. Пад яго націскам частка пайшчыкаў (каля 20 чал.) адкалолася і арганізавала новы коапэратыў але арганізацыя гэта скора разсыпалася. Варажы настрой п. Чыбаса дайшоў да таго, што ён абвесьціў па парафіі, што дзяцей тых бацькоў, якія састаяць пайшчыкамі „Гвязды," ён адмаўляецца прыймаць да споведзі.

25.VI—20 г. пайшчыкаў Т-ва мела ўсяго 70, паявога капіталу 27,515 мар. Такая значная сума паявога капіталу пры ненадтай лічбе пайшчыкаў тлумачыцца тым, што у Т-ве мала пайшчыкау, якія мелі-б па аднаму паю, а затым, увесь даход за 1919 г. быу прылічаны да паявога капіталу.

Т-ва сумела наняць уласнай 2, 8 дзес. зямлі і дом. У сучасны момэнт Урад клапоціцца аб устройстве машыны для чысткі воўны. У будучыну сябры Ураду глядзяць вельмі оптымістычна: „за годы два будзем мець ўласны млын", кажуць яны. Рахунковасьць „дамашняя" (самадзельная) але на дзіва акуратная.

Т-ва істнуе адзін год, але робіць вельмі добрае уражаньне. Самае цікавае ў ём—гэта падбор людзей, якія самы ад сябе сумелі паставіць яго на верны шлях. Тут ёсьць нават некаторая коапэратыўная свядомасьць. Праўда, сьвядомасьць гэта яшчэ вельмі туманная, неапрацаваная, але факт, што яна ёсьць

і гэта ужо шмат значыць. Першая мэта, якую Урад стараецца выпауніць, здавальеньне сваіх сяброу патрэбнымі ім таварамі. На зыск зьвертаюць увагу настолькі, наскалькі гэта патрэбна для хоць невялічкага, але усё-ж такі экономічнага прагрэсса коапэратыва. Ч.

# ХРОНІКА.

### Адстаўка Вайсковай Камісіі.

Нас паведамілі, што. Беларуская Вайск. Камісія ў Менску у поўным складзе падалася у адстаўку. Старшыня Камісіі п. П. Аляксюк злажыу свае поунамоцтвы, але, быццам, польская улада (sic!) не згаділася (?) на яго адстауку. У сувязі з гэтым пэратварэньнем складу Камісіі у Менск з Вільні выехаў вядомы беларускі дзеяч п. П. Умястоускі.

### Лекцыі беларусазнаўства.

Цэнтральная школьная рада у Менску дастала ад польскай улады дазваленьне выкладаць беларускую мову і літэратуру на курсах польскіх вучыцялёў, якія адчыніліся у некаторых паветах Менскага вокругу, а так сама і у Вільні. У Вільчі з 60-х слухачоу польскіх вучыцельскіх курсаў запісаліся на гэты лекцыі, каторыя будзе чытаць п. М. Гарэцкі, 40 чалавек.

### Трывога у Вільні.

У сувязі з некаторай зьменай палажэньня на фронце, адпаведныя улады зрабілі распараджэньне аб падгатоуке да эвакуацыі некаторых інстытуцый, якія ня могуць быць вывезены ў кароткі час. Гэта вызвала трывогу сярод жыхароў Вільні, што быццам гораду пагражае небясьпека з боку бальшавікоу. Мы можам сказац. што гэты страх залішні — у бліжэйшыя дні Вільні нічога не пагражае.

### Грамада моладзі.

Грамада моладзі у Вільні пашырае сваю працу. Кіраунікі дамагаюцца павялічэньня ліку сяброў і маюць на мэці залажыць спартыуны, дрматычны, музыкальны і інш аддзелы. Пры грамадзе пад кірауніцтвам п. Грыневіча закладаецца беларускі хор, у які просяць запісацца усіх хто мае ахвоту працаваць у гэтай справе.



Рэдактар Г. Богдановіч. Выдавец У. Знамяроўскі.

Пазволена Ваеннаю Цанзураю. Друкарня. Кооп. Тавар. „ДРУК“, Троцкая, 13.